


# Парады павадыру зьвяна.

**Як організоўваць і праводзіць раённыя масавыя сьвяты.**

На летні час піонэрскі атрад намячае вялікую задачу па ажыўленьні працы і прыданьні ёй больш масавых формаў. Такая задача выклікаецца тым, што ў атрадах яшчэ да гэтага часу ў большай альбо ў меншай ступені існуе „замкнутасьць“. Яна за гэты час павінна быць зьнішчана.

Супольна з рознымі формамі масавай працы, якія мы будзем праводзіць у летні час (вечары, пагулянкі, экскурсіі), трэба будзе практыкаваць таксама правядзеньне масавых сьвятаў у раёне. Гэта будзе спрыяць большаму ажыўленьню працы і прыцягненьню да піонэрскай організацыі неорганізаваных дзяцей.

Такія сьвяткаваньні павінны праводзіцца як у горадзе, так і ў вёсцы, але зьмест, выходзячы з рознастайнасьці ўмоў гораду і вёскі, будзе неаднолькавы. Трэба сказаць, што ў горадзе ёсьць магчымасьць надаць такім сьвятам больш масавы характар, імкненьне да масавасьці павінна быць і ў вясковым раёне.

**Калі і колькі організоўваць сьвятаў.**

За ўвесь летні час у раёне трэба правесьці ня больш як 3-4 масавых сьвяткаваньні, праводзячы іх у вольны для піонэраў і наогул усіх дзяцей час. Як правіла, раённая організацыя павінна вызначыць тэрмін у дзень рэволюцыйнага сьвята. У вёсцы магчыма організоўваць сьвяты і ў рэлігійныя дні, што, аднак, не павінна зводзіць іх у бок антырэлігійнага характару. Формы антырэлігійнай пропаганды зусім не вызначаюцца ў правядзеньні такіх сьвятаў.

Сьвяты магчыма праводзіць 11 ліпня, у міжнародны дзіцячы тыдзень, міжнародны юнацкі дзень, дзень ураджаю і г. д.

**Падрыхтоўка.**

Ад досыць добрай падрыхтоўкі залежыць і правядзеньне сьвята. Падрыхтоўку трэба пачынаць ня менш, як за 2-3 тыдні да сьвята. Гэта пытаньне абгаварваецца ў раённым бюро, кожнаму атраду даецца заданьне, якое ў сваю чаргу на зборы савету атраду разьмяркоўваецца цаміж зьвеньнямі. Тут павадырамі зьвеньняў павінна быць праведзена вялікая праца. Падрыхтоўка да сьвята атраду вызначаецца ў тым, што ім развучваюцца сьпевы, гульні, інсцэніроўка, адшуканьне месца для сьвята, прыцягненьне неорганізаваных дзяцей. Да гэтага часу прыкмячаецца, што ўдзел неорганізаваных дзяцей калі-ні-калі перашкаджае правядзенью атраднай працы. Каб гэта зьнішчыць, трэба кожнаму зьвяну ўзяць на сябе заданьне ў конкрэтнай і зразумелай форме: савет атраду павінен даць заданьне, указаўшы, колькі прыцягнуць неорганізаваных дзяцей і з якой вуліцы. Паступова зьвяно пачынае растлумачваць гэтым дзецям аб тым, якое будзе праводзіцца сьвята, як трэба трымаць сябе, калі пастроіцца ў шэрагі і даць ім якую-небудзь, хоць маленькую працу.

Адказнасьць за правядзеньне і назіраньне за ўсёй падрыхтоўчай працай ускладаецца на райбюро. Пасьпех працы залежыць ад добрага ўдзелу ў ёй атрадаў і іх зьвеньняў.

У сьвятах можна прымаць удзел 300—600 дзецям, улічваючы сюды і піонэраў. Раней распрацоўваецца програма і кожная частка яе разьмяркоўваецца паміж атрадамі. Месцам для сьвяткаваньня можа быць пляцоўка, сквер, паляна на акраіне лесу, плошча. Перад сьвятам трэба таксама трымаць сувязь з грамадзянскімі ўстановамі, якія-б маглі прыняць удзел у сьвяткаваньні (прадстаўнік раёна, школы).

**Зьмест сьвята.**

Зьмест сьвята залежыць ад таго, у які дзень яно будзе праводзіцца. Калі ў тое ці іншае рэволюцыйнае сьвята, тады зьмест будзе адпаведны гэтаму дню. Уся праграма разьлічваецца ня больш, як на 4-5 гадзін, а асобныя яе часткі павінны чаргацца паміж сабой.

Пачынаецца сьвята з кароткага паясьненьня кіраўніка (старшыня райбюро) аб значэньні гэтага сьвята і як яно будзе праводзіцца. У далейшым усе дзеці выстрайваюцца і праходзяць строем. У тых выпадках, калі ёсьць музыка,— больш цікавей зрабіць гэтае выстрайваньне і маршыроўку пад музыку.

Потым кожны атрад альбо група школьнікаў выступаюць з сьпевамі, інсцэніроўкамі, развучанымі імі фізычнымі ўпражненьням. Пасьля гэтага можна організаваць масавыя гульні па групах, а ў тых




УМОВЫ ПАДПІСКІ:
на 12 м. . . 2 р. 40 к.
на 6 м. . . 1 р. 20 к.
на 3 м. . . — 60 к.
на 1 м. . . — 20 к.

ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ
ОРГАН
ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
Менск, Пляц Волі,
Наркамасьветы БССР
— тэлефон № 443. —

№ 6. ЧЭРВЕНЬ 1926 г.

# За скарыстаньне лета.

Выкананьне піонэрскіх законаў і звычаяў дае нам магчымасьць добра паставіць выхаваньне нашага маладога пакаленьня. Але справа ў тым, што ні заўсёды і ня ўсімі піонэрамі законы і звычаі выконваюцца,—у гэтым і вызначаюцца нашы недахопы.

Якая з усіх чарговых задач, якія стаяць перад намі, павінна быць высунута на першы плян—„на перадавую позыцыю"? Сягоньня мы пагутарым аб аднэй такой задачы, разьвязаньне якой мае вялікае значэньне. Гутарка ідзе аб аздараўленьні. Праўду кажучы, аб гэтым ужо шмат гаварылася, але не пашкодзіць і лішні раз паўтарыць.

Вынікі мэд. агляду піонэраў па некаторых атрадах кажуць нам аб тым, што справа з здароўем піонэраў стаіць ня зусім добра. Хворых піонэраў і па гэты час яшчэ маецца шмат.

*Комсамолу патрэбна добрая зьмена*,—гэта тое, што мы любім часта толькі казаць. Цяпер чарга за практычным выкананьнем гэтага. У чым прычына хворасьці піонэраў (вядома ня ўсіх). Акрамя прычын экономічнага характару (дрэныя абставіны ў хаце, ня зусім добрая вопратка), яшчэ ёсьць і прычына тая, што зімовыя ўмовы ня спрыялі працы па аздараўленьню, другімі словамі кажучы, мы не змаглі поўнасьцю скарыстаць зімовага часу для гэтай мэты.

Да гэтага яшчэ дадаецца тое, што няправільнае рэгуляваньне нагрузкі піонэраў у школе і атрадзе мае мейсца ў шмат якіх атрадах; гэта ў сваю чаргу адбівалася на занятках у школе.

Прышоў летні час. Ён найбольш спрыяе разьвіцьцю працы па аздараўленьню. Ад таго, як мы зможам скарыстаць лета, у значнай ступені залежыць посьпех зімовай працы. Кожны атрад, кожны вучань павінен паклапаціцца аб тым, каб летні час скарыстаць для аздараўленьня сябе, тым больш, што заняткаў у летні час па школам ня будзе.

Наша задача скарыстаць поўнасьцю сонца, паветра і ваду. Адгэтуль перад кожным атрадам павінны стаяць наступныя практычныя мерапрыемствы: купаньне, сонечныя ваны, пагулянкі, правядзеньне заняткаў на вольным паветры, масавыя гульні і г. д.

Было-б дрэнна, калі-б мы ў летні час закінулі працу ў атрадзе. Яна павінна праводзіцца як і раней, але летні час яе больш ажыцьцяўляе, прыдае ёй большую масавасьць.

Карыстацца вадой і сонцам трэба ўмеючы, бо тут не далёка і да бяды, і, замест карысьці, будзе толькі шкода. Кожны піонэр, а таксама і піонэрпрацаўнік, пры правядзеньні мерапрыемстваў аздаравіцельнага характару, павінен трымаць цесную сувязь з урачом, які сваёй парадай будзе даваць належны кірунак і папярэджваць розныя здарэньні.

Акрамя гэтага трэба больш чытаць у нашых газэтах і часопісях парады ўрачоў і таварышоў, добра ведаючых гэтую справу, аб тым, як трэба карыстацца летам.

Вось, кораценька, нашы задачы, за летні час мы павінны іх выканаць.

У аздараўленьні—заклад посьпеху нашай далейшай працы.

Міхась Лабадаеў.




(*Апавяданьне*).

I

— Ты ў мяне глядзі, парасё паршывае, усе валасы табе пакалдучу, зрэжу паскам цела і такі прымушу хадзіць у хэдар!—крычаў стары мулер Гэйсэль на свайго сына Моту.

— Ой, татачка! калі-ж у хэдары надта нудна; там нічога добрага ня кажуць, а рэбэ так моцна мяне круціць за вушы і што-дня ставіць слупам у куток.

Мне хэдар не падабаецца, пашлі мяне на якую работу,—я хачу працаваць... чытаць я магу, пісаць таксама.

— А богу маліцца ты ўмееш? Шалёны! Праганю на вуліцу, ня дам есьці, басяк! Будзеш, як гіцаль, бегаць за сабакамі!—крычаў бацька і схапіўшы на бруднай падлозе гібкі прут біў ім Моту.

Мота залазіў пад стол у самы куток і засланіўшы твар рукамі сядзеў да тых часоў пакуль бацька ня выходзіў, кідаючы пад стол прут.

Тады Мота ціхутка вылазіў, асьцярожна пазіраў у вакно і калі быў упэўнены, што бацькі няма на дварэ, у адзін момант кідаўся да скрыпучае шафы і дрыжачымі рукамі завіхаючыся адразаў лустачку хлеба і браў цыбульку. Усё гэта ён запіхаў у кішэнь, выходзіў на двор і бег на кірмашовы пляц, дзе забаўляліся яго сябры.

Адзін раз у хэдары Мота пачаў спрачацца з рэбэ і не захацеў выпаўніць яго загаду. Рэбэ памкнуўся пакараць яго, але Мота спрытна выскачыў праз вакно на вуліцу і пайшоў дамоў.

Дома на парозе яго спаткаў бацька.

— Чаго ты прышоў? чаму ня вучыўся?—запытаў бацька.

— Там б'юцца; больш не пайду. Нічога больш ня кажучы, бацька адпяразаў пасак і піхаючы Моту да дзьвярэй, пачаў біць. Мота ня плакаў, ня крычаў і нават ня крывіўся, калі бацька са злосьцю засопшыся біў яго па плячох, па галаве і па чым пападала, гонячы перад сабою ў хэдар.

Старыя крамніцы пазіраючы, як Гэйсэль біў Моту, гаварылі круцячы галовамі:„Бі разбойніка!, Бі ўпартага гультая!“

Чарада дзяцей, якая гуляла каля крамаў, ўзьнялася, бы куча верабьёў, і абвіла густым колам крыклівага Гэйсэля і маўклівага панурага Моту.

Малы, замурзаны гразёю, сажаю і ўсім тым што можна знайсьці ў кухні,—сын балагола, Шлёма, каціў прутам па тратуары абруч. Пачуўшы крык і сьмех, ён падняў галаву і ўбачыў сярод кучы вясёлых дзяцей панурага Моту. Спрытна падхапіўшы абруч, ён пабег на сустрэчу Моту, зьнікаючы ў кучы дзяцей.

Шлёма часта бавіў час разам з Мотам і быў яго найлепшым сябрам. У хэдары і Шлёма і Мота лічыліся найгоршымі вучнямі. Шлёма быў заўсёды пад уплывам Моты. Ня слухае Мота рэбэ, ня слухае і Шлёма, ня йдзе ў хэдэр Мота, ня йдзе і Шлёма; у чым вінаваты Мота, у тым вінават і Шлёма; абаіх рэбэ круціць за вушы і пораўні ставіць у куток.

Убачыўшы, што бацька так моцна б'е Моту гонячы у хэдар, Шлёма, разрываючы густое кола дзяцей, падышоў да Моты і ўзяўшы за руку ціха запытаўся: „Табе не баліць? Ой, хай-бы ён і мяне біў, тады менш-бы ты зносіў болі“.

— Мне зусім не баліць,— пачаў шэпатам, засланяючы рукою рот, Мота,—але мне няпрыемна, што бацька гоніць у хэдар. Я тут хутка думаю уцячы і ўпэўнен, што ты таксама не захочаш застацца тут адзін. Вось зараз падыдзем да перавулка, што каля царквы; там хутка пераскочым плот, выбяжым праз прысаду на рог пляцу, зьвернем на Юрздыку, а там на рэчку. Згодзен?—

— Згодзен!—сказаў павесялеўшы Шлёма і ад радасьці падбрыкнуў.

Падышлі да перавулку.

— Дай дарогу!—закрычаў няждана для ўсіх Мота і рушыўся наперад паваліўшы двух хлапцоў.

У адзін момант ён пераскочыў праз плот і зьнік у ліпавай прысадзе, якая густым шнурам агарнула царкву.

Сьледам за ім разявіўшы рот, што меў сілы, бег Шлёма. Як ня рупіўся ён дагнаць Моту, як не злаваў на свае няспрытныя кароткія ногі, але адлегласьць між ім і Мотаю была вялікая.

А Мота бег без агляду, сьцябаючы здаровымі нагамі шырокія крокі. Ен-бы напэўна ня скора азірнуўся, каб не пачуў слоў утомленага Шлёмы:

— Ой, Мота... я хутка прыстану, пачакай мяне... я ўтаміўся...—

Мота застанавіўся.

— Ну што, уцяклі? Ха, ха, ха!—зарагатаў Мота.—А ты, мой кецал, так утаміўся? Але нічога аддахнём. Пойдзем туды.—Мота паказаў рукою на луг, які зялёнаю коўдраю слаўся поруч з бліскучаю рэчкаю. Шырокія кусты ракітніку й лазьняку, высокія старыя алешыны, вербы і дубы раскінуліся густым ланцугом на другім баку рэчкі.

— Пойдзем на той бок; будзе спакайней,—параіў Мота ўтомленаму сябру.

— А ты думаеш нас ніхто там ня знойдзе?— запытаўся Шлёма.

— Хто-ж можа нас знайсьці?

— А твой бацька!

— Ха, ха, ха! Дык ён-жа нас там і з сабакамі ня знойдзе; мы зайдзем далёка; мне там мейсцы знаёмыя.—

— А я там ні разу ня быў. На гэтым баку гуляў, купаўся ў рэчцы, а на той бок ня йшоў бо пужалі бандытамі ды ваўкамі, а я іх баюся,— сказаў Шлёма.

— Дурны ты, Шлёма!

— Чаму?

— Скуль-жа там будуць бандыты, альбо ваўкі? Там адно харáство і, апрача тхароў, выдраў і гарнастаяў, там ніякіх зьвяроў не спаткаеш.

— Ведаеш што Мота:—дай заб'ём тхара, альбо выдру, прададзім і атрымаем грошы.

— Эх, Шлёма, Шлёма!—уздыхнуў Мота—ты яшчэ й ня бачыў ні тхара ні выдры, а ўжо ловіш іх. Яны-ж таксама, як і мы, жыць хочуць.

Трэба мець добрае сэрца, асабліва дзеля тых, хто нам ня робіць крыўды.

— А ці-ж ты ня злуеш на бацьку і на рэбэ?

—На бацьку не, бо бацька мой хворы нэрвамі, як сказаў доктар і ад гэтага злосны бывае. А больш за ўсіх ты ведаеш каго я ня люблю? Я ня люблю горш за ўсё на сьвеце ўладаньне паноў! Учора польскі жандар сьцябануў мяне нагайкаю за тое, што я падаў праз вакно арыштаванаму селяніну кусочак хлеба.

Сэрца маё залілося помстай; я схапіў камень і хацеў ім кінуць у жандара, але стары шкляр, які гэта бачыў, схапіў мяне за руку, даў поўху па карку і адчыніўшы піхнуў на двор, а жандару растлумачыў, што я няпрытомны. Эх каб я меў магчымасьць прагнаць паноў!

— А ты ведаеш, што я чуў сягоньня?—сказаў Шлёма.

— Ну?

— Хадзем на той бок рэчкі, там скажу, а тут нас яшчэ хто пачуе.

— Хадзем!—згадзіўся Мота і хлапцы рушылі далей.

Яны перашлі мост, зьвярнулі направа і зьніклі ў густой зеляніне расьлін.

Вузкая сьцежка, як чарвяк, вілася між высокіх дрэў, кустоў і дзікага густога зельля.

Праз хвілін дзесяць хлапцы вышлі на роўнае адкрытае месца, якое зарасло пахучаю мурожнаю травою.

Поруч шырокай істружкай блішчэла рэчка прыбраная пахілымі дрэвамі і блакітнымі незабудкамі.

— Тут луг пана Загайскага,—сказаў Мота,— пойдзем і сядзем на беразе рэчкі пад вярбою. Ты ведаеш, Шлёма, як я люблю гэта месца?

Ах, як я люблю тут пасядзець, паляжаць і пакупацца! У мястэчку гразь, бруд, а тут так чыста!

— Ну, кажы, што ты там чуў?—запытаў Мота.

Шлёма азірнуўся навакол і пачаў шэпатам: „Я чуў, што бальшавікі на Бярэзіне далі перцу палякам і быццам усе паны рыхтуюцца ўцякаць."

Мота раптоўна павесялеў.

— Паны ўцякаць рыхтуюцца?.. Гэта мне надта прыемна слухаць! Ты разумееш Шлёма... Тады мы с табою будзем свабодныя, як птушкі; у бальшавікоў, брат, свабода, а свабоду я люблю. Плюнем тады на хэдар і будзем вучыцца у савецкай школе. А цяпер, Шлёма, давай, пакуль што, пакупаемся!

Пачалі разьдзявацца. Мота скінуў сарочку і ўжо хацеў скочыць у воду, але зусім блізка за кустамі пачулася фырканьне коней і моцны сабачы брэх.

Неспадзявана выскачылі на конях два ўзброеныя польскія жаўнеры, а разам з імі малады паніч Загайскі—афіцэр польскай арміі.

Хлапцы пачалі завіхаючыся адзявацца і памкнуліся ўцякаць, каб схавацца ў кусты, але пачуўся моцны дзікі голас Загайскага:



...Бацька, схапіўшы прут, біў Моту...

— Ату! Ату! Цюця! Стойце, шэльмы! Вялізны рыжы сабака куляючыся пабег проста да хлапцоў.

Шлёма моцна спужаўся, утаропіўся і застыў на месцы, апусьціўшы амарцьвелыя рукі.

Ён памкнуўся ўцякаць, але пачаў адчуваць, што ногі наліты чымсь цяжкім, рукі закалаціліся, галава закруцілася, пацяжэла, а рот дашчэнту перасох.

Ад неспадзяванага зьявішча спужаўся і Мота, але ў яго руху ня было прыкметна ўтаропленасьці. Ён кінуў поглядам навакол і ўбачыўшы сукаватую тоўстую палку схапіў яе дрыжачаю рукою, каб абараніцца ад сабакі.

Тым часам сабака разьзявіўшы рот са злосным „грр"... кінуўся ўтаропленаму Шлёму на грудзі. Ногі ў беднага хлапца анямелі, пакаўзнуліся, у вушох зазьзвінела, а з грудзей вырваўся дзікі лямант.

На зьбялелым твары Моты выявілася рашучасьць. Чорныя, як вуглі, вочы заблішчэлі, ноздры пашырыліся, сьціснуліся зубы і моцна заскакала неспакойнае сэрца. Падскочыў да сабакі, які тармасіў Шлёму, і пачаў яго біць замашкаю палкаю.

Сабака з гнеўным бурчаньнем адскочыў у бок, скалячы злосна зубы ў бок Моты.

Пад'ехаў Загайскі з жаўнерамі.

— Ты, што, пархуцька, бьеш сабаку? Як ты сьмееш?!— Хто вам тут дазволіў коўзацца па гэтым лузе?—закрычаў ён.

— А хто, пану, дазволіў скаваць нас сабакамі? Хай пан мне адкажа!—сказаў выразна Мотка з вялікім абурэньнем.

Загайскі зачырванеўся, твар яго скрывіўся ад злосьці, у руцэ закалаціўся гібкі бізун.

Сыты конь, сьціснуты гострымі шпорамі панаафіцэра Загайскага, накіраваўся на Моту.

II

І што мне з м рабіць? Што м не рабіць з ім?—разводзіў рукамі стары Гэйсэль, які накіраваўся шукаць Моту.

— Вось упарты удаўся! Але я такі на сваім пастаўлю, пайду злаўлю і не дарую. Ня можа быць, каб такі смаркач мяне за нос вадзіў. Не дажджэш ты! Хіба-ж я ня бацька, каб ты мяне ня слухаў? Го, упарты басяк! Го, няпрытомны свавольнік і надбайнік! Я цябе, вось, накажу: ні аднаго валаска на тваёй галаве не пакіну, прывяжу ланцугом да плоту, як сабаку!..



... Паны ўцякаць рыхтуюцца!..

Гэйсэль з лаянкай рушыўся завіхаючыся ў той бок, куды ўцяклі хлапцы. Апынуўшыся за мястэчкам, ён падышоў да мосту і тут спаткаўся з рыбаком, дзедам Апанасам, які з вудамі і невялічкім вядзёркам ішоў уздоўж берагу. Гэйсэль спыніў Апанаса:

— Скажы мне, Апанасе, ці ня бачыў ты, часам, тут майго хлопца?

— Тут нядаўна ў дваіх беглі; адзін як бы Нохіма-балагола, а другога я добра й не пазнаў; здаецца, што твой,—адказаў дзед.

— А куды-ж яны накіраваліся?

— Вось туды, пад Загайскія лужкі,—паказаў рукою Апанас.

Гэйсэль матнуў галавою ў бок дзеда і пашоў паказанай сьцежкай.

Праз колька хвілін хадзьбы Гэйсэль апынуўся на лузе і тут-жа пачуў моцны рогат і лаянку. Ён пачаў прыглядацца засланяючы рукою твар і заўважыў хлапцоў, поруч з якімі стаялі жаўнеры і пан Загайскі. Амаль што баз памяці Гэйсаль пабег да сына.

— Чаго ты бяжыш, старая падла? Ці ня твой гэта шчанюк будзе?—запытаўся Загайскі паказваючы на Моту.

— Гэта сын... мой сын, пане.

— А чаго-ж ты тут гайсаеш? Скуль ты?

— Ці-ж, пан, ня знаемул яра Гэйсэля? У вашага айца я калісь працаваў у пакоях, паніч, былі малы, вучыліся...

— На якую хваробу ты мне здаўся разам з сваёю нікчэмнаю працаю, я, вось, пытаю чаго тут ходзіш?!

— Я, шаноўны пане, шукаў сына, а ён вось тут.

Пры гэтых словах ён паглядзеў на Моту.

— А што, басяк, наскочыў? папаўся?—закрычаў Гэйсэль і, падышоўшы да Моты, выцяў яго два разы рукою па твары. Мота ня вытрымаў. Моцна пакрыўджаны яшчэ да гэтага панам Загайскім, ён не заплакаў, а цяпер, калі нават памалу выцяў бацька, нейкае невядомае да гэтых часоў пачуцьцё агарнула ўсю істоту Моткі і ён заліўся сьлязамі, закрыўшы рукамі твар. Яму чамусьці стала шкода бацькі, хацелася кінуцца да яго, прыціснуць да сябе і сказаць:—„Бедны, тата! я ня злую на цябе, я люблю цябе і бяз конца шкадую, але кепска, што ты не разумееш мяне і лічыш мяне ўпартым“.

Цяжка было Моту пазіраць на тое, калі бацька зьвяртаючыся да пана Загайскага зьнімаў перад ім шапку і кланяўся, выяўляючы на маршчыстым твары глыбокую дакорнасьць. Тагды хацелася моцна закрычаць з дакорам:—Тата! як ня саромна табе выказваць крыўду нашаму ворагу і нізіцца перад ім, калі ён цябе ня лічыць за чалавека? Плюнь на яго, ён ня варт добрых слоў!

— Дык гэта, кажаш, твой сын?—запытаўся Загайскі.—А чаму-ж ты, старая псіна, яго пасеш на маім лузе, ды чаму ён у цябе такі распусны, такі задзёрлівы? Вось і мяне ня хоча паважаць; ня то каб прасіць прабачэньня, але й грубіяніць прабаваў... Вось-жа я паказаў яму, высьцябаўшы бізуном, як трэба паважаць шляхэтных людзей. А вось затым, што цяпер у нас, наогул, недахват людзей у маёнтку, дык я туды і забяру гэтых двух падшыванцаў; можа на што спатрэбяцца.

Стары Гэйсэль трымаючы шапку ў руках нізка пакланіўся і пачаў:

— Пусьцеце, панок, гэтых свавольнікаў. Я ўжо сам так пакараю свайго, што ён больш сюды не патрапіць.

Гэйсэль кінуўся да Загайскага, каб пацалаваць руку, але Загайскі з гідліваю ўсьмешкаю адапхнуў яго ад сябе нагою.

— Чаго лезеш, стары пес?—закрычаў на Гэйсэля жаўнер і штурхануў яго вінтоўкаю ў плячо.

— Ну, досыць! Цяпер рушым да маёнтку; а гэтых мудрагеляў забярыце!—паказаў Загайскі на хлопцаў зьвяртаючыся да жаўнераў.

— Дык як-жа гэта так, панове? Пане, Загайскі! Прашу вашай міласьці...—гаварыў узрушаным голасам Гэйсэль.

— Пусьцеце, пане, бо яны-ж яшчэ дурныя, вядома блазнота, да й час цяпер неспакойны...

— Што ты сказаў? Ах, юда праклятый!—закрычаў Загайскі.

— Скуль-жа ты ведаеш, што цяпер неспакойны час? Вы, жыды, толькі й чакаеце, каб прышлі чырвоныя бандыты—бальшавікі. Гэ, д'яблы! Недаварк! Не дажджаце-ж вы тут разам з бальшавікамі быць уладарамі! Я пушчу ў агонь бацькаўскі маёнтак, дам загад спаліць мястэчка, а бальшавіком застанецца адны руіны!

III

Сьпякотны летні дзень зьмяніўся досыць вільготным вечарам. На цёмна-сінім небе заблішчэлі залатыя зоркі, з боку рэчкі расьцягнуўся белай тканічай густы туман. Дзесь недалёка ў кустох, крычаў драч, плюхаліся ў сажалцы качкі і час-ад-часу аказваліся чымсь патрывожаныя гусі.

У ваграмадным маёнтку пана Загайскага было неспакойна. Усе чамусьці зрабіліся маўклівыя. Ня крычаў моцна на парабкоў, як гэта бывала раней, аканом—пан Мэйснэр; ня чутно было траскучага голасу ахмістрыні Агаты. Парабкі хадзілі рухавей чымсь раней. Па іх выразу твараў можна было заўважыць, што яны думаюць аб нечым надта важным і цікавым. Каля аборы і стаўні яны сабраліся разам і аб нечым гутарылі. Маладыя хлапцы-парабкі нават не хавалі сваё радасьці і некаторыя з іх аглядаючыся ў бакі пачыналі насьвіставаць і сьпяваць у паўголаса рэволюцыйныя песьні.

У панскіх пакоях падняўся нявіданы да гэтага часу гармідар. Усе рэчы былі зрушаны з мейсца. Заварушыліся клункі, скрынкі, зазьвінела срэбная пасуда; зашамрэлі дарагія каберцы і іншыя тканіны. Засопшыся бегалі з пакоя ў пакой, стукаючы дзьвярыма, пакаёўкі і лёкаі, зьбіраючы тыя рэчы, на якія паказвала сумная гаспадыня—пані Анэля.

Панская сямья рыхтавалася пакідаць маёнтак, бо ўсе ўжо былі ўпэўнены, што хутка прыйдуць бальшавікі.

Калі ўсё неабходнае дзеля падарожжа было зьвязана і паложана на вялікія фуры, пані Анэля зайшла ў пакой, дзе знаходзіліся яе дзеці. Старшая дачка, Ядзя, кінулася матцы на шыю і пачала моцна плакаць.

Малады паніч—афіцэр, Ян Загайскі, пачуўшы плач сястры з суседняга пакою, падышоў да яе і пачаў супакойваць. Сястра паглядзела на яго вачыма, поўнымі сьлёз, і з дакорам прагаварыла:

— Дзе-ж твая праўда? Яшчэ нядаўна казаў, што на фронце ўсё ладна, а цяпер, што робіцца?..

Ян зачырванеўся ад сораму, нахмурыў чорныя бровы і нічога больш не сказаўшы выйшаў на двор, моцна стукаючы дзьвярыма.

На дварэ ён спаткаўся з бацькам.

— Ну, што чуваць, сынку; можа дарэмна толькі зьбіраемся ўцякаць, можа бальшавікоў супынілі?—запытаўся стары пан Загайскі.

Да гэтага часу Ян лгаў, супакайваючы старога, што справа на фронце йдзе як ня трэба лепш, але цяпер лгаць было немагчыма, бо ўсё выяўлялася відавочна: грукацелі дзесь блізка гарматы, пацягнуліся доўгія абозы; пачалі часьцей паказвацца польскія жаўнеры. Ян сьмела паглядзеў бацьку ў вочы і сказаў:

— Нічога цікавага! Часова польская армія рушыцца бязупынна назад; нам трэба часова выехаць. Бальшавікі ў пяці кілёмэтрах ад Ігумэню; староста выехаў у Менск...

— О, Езус сьвенты!—прастагнаў стары Загайскі,—хіба-ж чырвоная армія ёсьць сапраўдная армія? Хіба-ж усё тое, што траплялася чытаць у газэтах і чуць ад паноў афіцэраў, зьяўлялася хлусьнёй? Хіба-ж бальшавіком дапамагае сам д'ябал з пекла?..

Стары пан спадзяваўся, што бальшавікі будуць адкінуты назад, што адступленьне зьяўляецца неабходным дзеля палякаў манэўрам. Але апошняя вестка сына канчаткова разбіла ўсе надзеі старога пана і дала яму магчымасьць зразумець, што настаў час тэй страшнай трагэдыі, якой ён так моцна баяўся. Ён зразу асунуўся, зразу пачуў дыханьне грознай навальніцы, водблескі якой зігацелі чырваньню на ўсходзе.

Хістаючыся, стары пан увайшоў у свой габінэт і сеў на мягкае крэсла. Але нэрвовасьць ахапіла ўсю яго істоту і ён памалу падняўшыся выйшаў у карыдор і накіраваўся ў вялікую залю. На аднэй сьцяне залі, абабітай чырвоным сукном, вісеў фамільны гэрб Загайскіх, а пад ім у пазалочаных рамах стаялі доўгім шэрагам портрэты пэндзля італьянскіх мастакоў. На іншых сьценах была разьмешчана старасьвецкая зброя, паляўнічыя прылады і старасьвецкае адзеньне. Загайскаму пачало здавацца, што ўсе портрэты накіравалі на яго калючыя погляды і пачалі паказваць на старасьвецкую зброю—нажы, шаблі і пісталеты.

— Не, я не ваяка!—падумаў уздыхнуўшы Загайскі і пачаў адчуваць сябе бязьмерна маленькім і нядужым сярод портрэтаў сваіх калісьці грозных продкаў, адзетых у кальчугі і залатыя кунтушы.

— Што сказаў-бы, гледзячы на ўсё гэта, мой бацька, мой пачэсны дзед? Што сказаў-бы, устаўшы з магілы, увесь наш слаўны род Загайскіх? Яны ўсе спакойна сьпяць у скляпох, яны ня бачаць, што сотнямі гадоў набытае дабро руйнуецца і будзе зруйнована дашчэнту...

Загайскі зьняў са сьцяны запылены ліхтар, знайшоў на стале доўгі ключ і накіраваўся да капліцы, дзе захоўваліся яго даўно памёршыя продкі...

IV.

Сямья Загайскіх яшчэ ня траціла надзеі праз кароткі тэрмін вярнуцца ў свой маёнтак, і стары пан даў загад аканому, каб з маёнтку было выведзена ўсё быдла. Але, на жаль паноў, ніхто з парабкоў не хацеў ісьці разам з імі і гнаць у Польшчу быдла, якога было надта шмат у маёнтку. Шмат прасіў аканом у парабкоў, каб яны згадзіліся ратаваць панскую рухомую маемасьць, шмат чаго абяцаў ад панскага імя.

— Калі вернецеся з панамі назад пасьля адыходу чырвоных, дык пан падаруе вам паўмаёнтка,—казаў аканом парабком.

— Хай пан аддасьць паўмаёнтка пану аканому,—сказалі аднагалосна парабкі і не згадзіліся з яго прапановамі.

V.

Малады паніч, Загайскі, прыгнаў пакрыўджаных хлапцоў—Моту і Шлёму—у маёнтак і аддаў пад загад аканому.

— Гэтыя галганы пагоняць быдла,—сказаў Загайскі і даў загад аканому замкнуць іх, на ўсякі выпадак, каб не ўцяклі.

Аканом загнаў хлапцоў на вышкі старое стайні і сказаў хурману, каб наглядаў за імі.

Усё тое, што рабілася ў маёнтку, хлапцы мелі магчымасьць наглядаць праз вакно, якое знаходзілася на вышках. Дзеля іх было зразумела па тым занеспакаеньні, якое адбывалася ў маёнтку, што паны ўцякаюць. На стайні харчавалі і рыхтаваліся да запражкі коней, мазалі колы і аглядалі вазы.

На вялікім дзядзінцы размясьціліся з сваёю маемасьцю паны-уцекачы з ваколічных маёнткаў і хутароў.

Хлапцы седзячы на вышках будавалі розныя пляны наконт таго, каб уцячы і ня йсьці за панскім быдлам разам с панамі ў Польшчу. Уцячы было ня лёгка: дзьверы на вышкі былі замкнуты, а адзінае вакно было далёка ад зямлі, каб праз яго выскачыць.

— Што тут зрабіць? Як уцячы? Як зьлезьці на зямлю?—даваў сабе пытаньне Мота, сьціснуўшы рукамі галаву і глыбока задумаўшыся.

Шлёма спагадаючы паглядзеў на сябра і сказаў:

— А, вось, каб дастаць вяроўку, тагды-б...

Мота падняў галаву.

— Вяроўку? Спусьціцца па вяроўцы ўніз, на зямлю праз вакно? Так, гэта было-б добра, але дзе-ж яе ўзяць?

Шлёма азірнуўся навакол і сеў бліжэй каля Моты.

— Я ведаю дзе!—сказаў ён. Калі мы праходзілі праз стайню, я заўважыў на слупе пастронкі. Калі-ж зможам падняць дошку над слупам, дык будзем мець вяроўку.

— Павінны падняць!—сказаў павесялеўшы Мота, прабуючы рукамі нямоцны насьціл вышак.

Праз колька хвілін, хлапцы бяз клопату знайшлі тое месца і дошку, пад якой знаходзіўся слуп з пастронкамі. Адкінулі ў бакі сьмецьце, салому і пачалі падымаць дошку. З ціхім скрыпам дошка паднялася і не пасьпеў Шлёма зірнуць у ніз, як Мота ўжо ўхапіўся за слуп і спрытна, як кот схапіў цэлы жмук пастронкаў.

— Цяпер трэба хутчэй апушчаць дошку!—сказаў шэпатам Мота. Дошку апусьцілі на ранейшае месца і пачалі зьвязваць пастронкі. Перад зьмерканьнем у хлапцоў ужо ўсё было гатова: пастронкі пазьвязвалі так, што ўтварылася доўгая вузлаватая вяроўка, гэту вяроўку адным канцом моцна прывязалі за страпеньне. Ужо ў самым пацёмку, улучыўшы момант, калі нікога блізка каля стайні ня было, хлапцы моцна трымаючыся за вяроўку пачалі праз вакно спускацца па ёй уніз.

— Вось, мы й свабодныя! Цяпер трэба дзе колечы стуліцца; хіба пойдзем направа ад парку, вось, да тэй капліцы, там такі гушчэр—кусты, дрэвы, і нас там, напэўна, ніхто ня знойдзе,—сказаў ціха Мота, сьціскаючы гарачыя, потныя рукі свайго сябра.



...Нам трэба часова выехаць...

Асьцярожна азіраючыся навакол і баючыся, каб з кім не спаткацца, хлапцы мінулі парк і зьніклі ў густых кустох бэзу і жоўтых акацыяў, якія поруч з тоўстымі дубамі шчыльна прытуліліся да мураванай старой капліцы.

Ня гледзячы на тую суш, якая панавала ўсё лета, каля капліцы было чамусьці вільготна і хлапцы пачалі шукаць сухога месца, каб сесьці. Знайшлі трухлявую пахіленую лаўку, дзе і прыпыніліся.

— Паглядзі, Мота, паглядзі, вось, нехта сюды йдзе з ліхтаром, — шэпатам сказаў Шлёма, паказваючы ў бок парку.

— Бачу. Гэта стары панбацька таго афіцэра, які нас сягоньня набіў і загнаў на вышкі.

— Будзем уцякаць?—прашаптаў Шлёма.

— Куды? Ён нас тут зусім не заўважыць, а калі-б і заўважыў, дык нічога ня зробіць, ён, бач, ідзе ў капліцу, напэўна, маліцца.

Як толькі пан увайшоў у капліцу, праз колькі хвілін Мота, а за ім і Шлёма, ціха крадучыся і туляючыся між тоўстых камлёў дубоў, пашлі ўздоўж сьцяны, каб пацікавіцца, што будзе рабіць пан.

Падышлі да дзьвярэй капліцы, дзе на тоўстым прабое вісеў вялікі старасьвецкі замок, а ў ім тарчаў доўгі ржавы ключ. Праз адчыненыя дзьверы Мота, стрымліваючы дыханьне, зірнуў у нутро капліцы, але нічога там ня ўбачыў, апрача яснае палоскі сьвятла на сьцяне, якая прабілася з склепу праз шчыліну дзьвярэй.

Пасьля невялікай развагі, Мота асьцярожна зьняў з прабою замок і зачыніў дрыжачаю рукою дзьверы. Пачуўся скрып. Сэрца ў Моты моцна застукала. Ён рашуча, прылажыўшы тоўстую клямку да прабоя, павесіў замок, сьціснуў яго моцна рукою і павярнуў ключ...—Замкнуў! Цяпер, як мага будзем уцякаць з гэтага паганага маёнтку,—прашаптаў, моцна дыхаючы, Мота над вухам Шлёмы.

(Канец будзе).

**Язэп Вір.**

# Вершы і песьні.

## Будзь гатоў!..

Будзь гатоў ты, ваяка малы,
Ці то рана, ці позна!
Лётна так, як арлы-сакалы.
Ня чакаючы слоў
Ад прынукі пагрознай,
Будзь гатоў!

Колькі сіл сьцяг дзяржы ў кулачку!
Бо як здарыцца справа,
Ня драмаць, верна быць на чыку!
На ўбарону бацькоў
Піонэрскаю славай,
Будзь гатоў!

Не драмі, рэволюцыі сын,
У зьвяне, у атрадзе!
Ў бубен бі, песьні пей. кліч на чын!
А сястрыц і браткоў
Ня даць крыўдзе і здрадзе,
Будзь гатоў!

Ня здарма, мой малы піонэр,
Ты—чырвоная зьмена;
Думкі, сілу гартуй на манер
Сваіх старшых бацькоў;
Стаць за волю нязьменна,
Будзь гатоў!

Беларусь спадзяецца з цябе
Мець свайго абаронца,
Будзь-жа ім, і ў жыцьця барацьбе
Ўжо даросшы гадкоў
Яе весьці да сонца—
Будзь гатоў!

ЯНКА КУПАЛА.

* * *

Я ішоў. За гарою зялёнай
Агарнулі кусты і туман...
А з далёку атрадаў калёны
Зацягнулі Будзённага марш.

Што ім сёньня, яны на прывольлі,
Ім цяпер толькі ў радасьці жыць!
Дзень прайшоў і на роднае поле
Іх атрад за атрадам бяжыць.

А там далей?—там песьні і радасьць,
Там срабрыстага месяца сьвет.
Захапіўся я сілай атрадаў
На прасторы вясновых завей!

І я слухаю песьні прывольля,
Сам у тон ім хачу падпяваць!
Хай сьмяецца пад сьпевамі поле,
Як пад ветрам аўсы і трава!

Каб я мог песьню волі й прыроды
У сугучаснасьць адну ахінуць
І над гэтым дзіцячым народам
Прыгажэй разрумяніць вясну!

А пакуль над гарою зялёнай
Я прапеў гэту песьню, як мог,
Хай падхопяць яе міліёны
На бязьмежжы шырокіх дарог.

В. М.

## Піонэрскі клюб.

(*На мотыў „Провады“*).

Ў піонэрскі клюб мяне
Правадзілі,
Усе бабы са двара
Абступілі.

— Ты куды ідзеш, сынок,
Эх куда ты?
Ў піонэрскі клюб ідзеш,
Клюб праклятьі,

Піонэрскі клюб, павер,
Мы ня любім.
Вельмі-ж шумны там народ
Ў вашым клюбе.

Ой-жа чым ты, сынку, так
спакусіўся?
Ты-б у цэркаў лепш пашоў
Памаліўся.

Рос-бы ціхім, дзеткі, ты
І спакойным
Быў заўсёды-б ты тады
Ўсім здаволен.

Слухаў гэтых я старых,
Бабаў-матак,
А пасьля на гэта ім
Адказаў так:

— Піонэрскі вольны клюб—
Наша справа.
Пастаяць мы за яго
Можам з славай.

Што нам казкі гаварыць
Пра рай божы,
Самі рай свой на зямлі
Зрабіць можам.

Шчасьце дасцца усім нам
Не багамі,
А сваімі зробім мы
Ўсё рукамі.

Жыць комунай вучаць нас
Ў сваім клюбе,
Жыцьцё сьвятам будзе нам,
Сьвятам любым.

Ў наш саюз ідзеце ўсе,
бедных дзеці,
З комсамолам пойдзем мы
Па ўсім сьвеце!






# ДЗЕЦІ СОНЦА І ПАЛЁЎ.

(*Інсцэніроўка—гульня*).

**Прымаюць удзел.**

1. ЮЗІК
2. ПЕТРЫК
3. ЖЭНЬКА
} Піонэры—прыродазнаўцы.

4. МІКЛІК
5. МІЦІК
6. ТОДЗІК
} Пастухі.

7. Група піонэраў фізкультурнікаў.

Дзея адбываецца на адчыненым лузе. За лугам гай. Шмат красак, густая мурожная трава.

**Зьява 1-я.**

На сцэне—Юзік, Пётрык і Жэнька. Яны сеткамі ловяць кузурак, зьбіраюць лекавую траву. Адзеты палетняму. У руках шмат кветак. У Жэнькі на галаве з кветак вяночак.

Юзік (скача на аднэй назе, рады, што злавіў прыгожага і рэдкага матыля для школьнай колекцыі, і сьпявае частушкі):

Матылёчак, матылёк,
Любы, родны мой дружок!
Ня сумуй ты, ня сумуй,
На мяне ня злуй, ня злуй.
Ой, зялёны мілы гай,
Залацісты волны край!—
Край бялюткіх матылькоў,
Сінявокіх васількоў.

Жэня: Прыгожая, прыгожая песьня, але ты сьпяваць ня ўмееш... Давайце лепш разам сьпяем. Ведаеце песьню „Вяночак“, якую я з вамі развучвала.

Ой на лузе, на лужочку
Кветкі пекныя ўзрасьлі.
З гэтых кветак па вяночку
Мы прыгожаму сьплялі.
Ой ды нашыя вяночкі
Ў сонцы ясным зіхацяць,
Нібы дзетак мілых вочкі,
Шчасьцем радасным гараць.

Петрык: Юзік, Жэнька, хадзеце сюды! Глядзеце, які прыгожы, зялёненькі конік! У нас у колекцыі яшчэ й ня было такога! (Круціць у руках, скача і прыпявае):

Хадзі сюды, стракатун,
Не вярціся, як уюн.
І ні вуса, ні нагі,
Не пакрыўдзім, дарагі!
Усёй школы к табе, конік,
Будзе ўвага і паклонік.
Цябе будзем разглядаць,
Цябе будзем вывучаць.

(У гэты час па-за сцэнай чуваць ігра на звычайных ракітавых дудках).

Голас (У захапленьні): Сюды, сюды, хлапцы! Тут гнёздаў дык не параскідаеш усіх да вечара!

Голас 2-і: Тут бакасы, кнігаўкі, качкі, драбязы колькі!

**Зьява 2-я.**

Выходзяць пастухі.

Юзік: А... а... і вы тут? каровы прыгналі?

Міклік: Так, так.. Ці ня бачылі вы тут гнёздаў?

Петрык: На што, каб раскідаць іх?

Міклік: А хіба-ж ня можна?

Міцік (да Петрыка): Ты ня ведаеш яшчэ, які мацак наш Міклік раскідаць гнёзды і біць маленькіх птушанят?

Петрык: Ну, і дзівакі-ж... Хто-ж гэта які дурань зьдзекуецца з птушак! Птушкі-ж карысьць нам даюць у гаспадарцы: чарвякоў ловяць ды іншых шкодных мошак. Яны, як і вы, жыць хочуць!

Міцік (да пастухоў): А можа й праўду ён кажа? (Да Юзіка). Ну, а як патвойму?

Юзік: Каб ня было ў нас птушак, нашы палі ўскрыліся-б чарвямі, наш гай быў-бы

сумным і маўклівым. Зьнікла-б усё хараство і пекната нашай прыроды.

(Пастушкі апусьцілі ўніз задумённыя галовы).

Міклік: Дык вось яно што... Мне надойчы бацька аб гэтым гаварыў. Але я ня верыў яму,—што ён, думаю, разумее ў гэтым дзеле...

Жэнька: Давайце, сябры, больш ня будзем рабіць птушкам шкоды.

Юзік: Лепш займемся разам карыснай працай: будзем зьбіраць цікавыя лекавыя расьліны, кузурак для школьнай колекцыі. Налета-ж і вы пойдзеце ў школу. Казаў настаўнік, што нікога ўжо не застанецца па-за школай, усе будуць вучыцца.

Петрык: Гэта праўда. І я сам чуў ад настаўніка.

Жэнька: Зараз да нас сюды павінна прыйсьці зьвяно „Фізкультурнік", тады будзем гуляць з імі, а цяпер давайце сьпяем песеньку „Сінічка".

Усе: Згодны! Давайце!

Юзік: Пачакайце, пачакайце! Я прапаную Жэні аднэй прасьпяваць, а мы паслухаем.

Усе: Праўда, праўда! Сьпявай, Жэнька!

(Усе садзяцца на траву. Жэня сьпявае).

Ў нашым гаі, у парэчках
Зьвіла птушачка гнязьдзечка.
Ой, сінічка, ой, сінічка, } 2 разы
Наша любая сястрычка.

Завяліся ў гнязьдзечку
Ды рабенькія яечкі...
Ой, сінічка...
І ў сінічкі, нашай маткі,
Завяліся птушаняткі.
Ой, сінічка..
Ой, аднойчы злыя дзеці
Прышлі птушак паглядзеці...
Ой, сінічка...
Паглядзелі і пабілі,
Гняздо купінай накрылі...
Ой, сінічка, ой, сінічка...
Прыляцела к гнязду матка:—
„А мае-ж вы небажаткі!"
Ой, сінічка...
Стала плакаць і кружацца,
Аб парэчкі моцна біцца...
Ой, сінічка...
— Каго-ж буду даглядаці,
Чарвячкамі гадаваці..,
Ой, сінічка...
І ад жалю ня стравала,—
Мёртвай, бедная, упала...
Ой, сінічка...
На кусточку невялічкім
Сьпіць навекі ўжо сінічка.,.

(Песьня павольна заціхае. Па-за сцэнай узьнімаецца і нарастае шум).

### Зьява 3-я.

(Уваходзіць зьвяно фізкультурнікаў).

1-ы піонэр (к прысутным): Што-ж вы робіце тут?

Юзік: Гуляем, сьпяваем. Кузурак і лекавую траву зьбіраем. Бачыце, колькі ў нас работы.

2-гі піонэр: Давайце, сябры, разам будзем гуляць організавана!

Усе: Давайце!

(Усе строяцца па камандзе. Робяць некальк, вольных рухаў. Пастушкі часта не патрапляюцы качаюцца).

Павадыр: Цяпер, таварышы, моʻ карагодныя гульні правядзем?

Усе: Згодны!

(Усе бяруцца за рукі і круцяцца сьпяваючы).

Грышка, Янка і Фядот
Сабірайся ў карагод.
Ой люлі, ў карагод,
Ой люлі, ў карагод!
Выдзем, выдзем пагуляць
Сваю песьню прасьпяваць,
Ой люлі, прасьпяваць,
Ой люлі, прасьпяваць!
Нам пад сонцам люба жыць,
Нам пад сонцам люба быць.
Ой люлі, люба быць,
Ой люлі, люба жыць!
І лужочкі і гаі—
Ўсё для нашае сямʻі.
Ой люлі, для сямʻі,
Ой люлі, для сямʻі.

(У гэты час заслона паволі апускаецца).

Увага: Мотыў для песьняў кожны гурток можа падабраць сам. Карагодныя частушкі лепш усяго выконваць на вядомы ўжо ўсім мотыў: „У карагодзе мы былі".

**А. Чурылавец.**






*Казка* **Якуба Коласа** *).

XI.

Ну, што зробіш ты з раком,
З тым упартым дзіваком?
Вось бяда з ім, дык бяда!
Што ты скажаш, грамада?
—Справіцца з бядою
Можна грамадою.
Трэба рукі прылажыць,
Каб наш рак астаўся жыць.
І хацелі слаць паслоў,
Каб ня траціць дарма слоў,
Ды на шчасьцейка якраз
Плыла качачка ў той час.
Выклікаецца яна
Абразуміць гаруна.
— Дзякуй табе, качанька!
Патурбуйся, мілая!
Памірае рачанька,
Клешня ён двухвілая,
Галава ўпартая,
Нікуды нявартая,
Разважалі яго мы—
Ен ні слова, як нямы.
Разважала плотанька,
Акунёк, чаротанька.
Папрабуй ты, цётанька!
Справа то грамадзкая,
Почасьць будзе хвацкая:—
Як справу тую выпаўніш,
Запішам мы цябе
На дошчачку чырвоную,
На вербачку зялёную
Мы вывесім яе.—

X.

Рак сядзіць у нары
Высунуўшы клешні,
І ня есьць ні ікры,
Ні тае яешні.
Сьцеражыся-ж ты, рак:
Унь ідзе, брат, качка!
Рыба валіць пад гак,
Там цяпер гарачка.
Плёх усьцяж на вадзе.
Няма месца нідзе...
І залапатала
Крыльлямі тут качка,
Ды вось як сказала
Гаруну бядачка:
„Што забраў ты ў галаву,
Рак, ты неразумны?
Ці наліў ты волава
Сабе ў сэрца, чумны?
Рыбка непакоіца
З гэтакага суму,
Сэрца яе кроіцца,
Бо што ты задумаў?




*...Унь ідзе, брат, качка!*

І падумаць—цацкаю!
Цаца сум рачыны!..
Ты жыцьцё грамадкае
Выбіў з каляіны!
Ой, занадта многа ты
Носішся з сабою!
Справа варта рогату
У параўнаньні з мною.
Я хоць і жанатая,
А жыву ўдавою

*) Гл. № 5 „Б. П.“

Ды каго то кратае!
Ой, жыцьцё праклятае
Не дае развою!
Раньняю вясенькаю,
Як сяляне ў поле
Выйдуць з сявенькаю,
Я адна-адненькая
Шворуся па доле.
І шукаю купінкі,
Зацішнай і дзікай,
Аглядаю рупненька
З боязьню вялікай
Кожную мясьціначку,
Кожненькія лядкі,
Дзе-б мелі спачыначак
Дзеткі—качаняткі.
Бяз мужнінай помачы
Я будую хату,
Галованьку ломячы
І дзюбок—лапатку.
А мой качар шэранькі
Знаць мяне ня знае:
Б'е, скубе мне пераньki,
Я-ж цярцлю, адна я.
А дзетачак выведу,
Клічу іх на воду,
Ды сустрэне-ж злыбеду
Гора—перашкоду.
На жыцьцё качынае
Робяцца замахі.
Як трасуся, гіну я!
Томяць сэрца страхі...
Ой, да няма ліку ім,
Горкім тым падзеям,
Ды ня робім крыку мы,
Скардзіцца ня ўмем.
Дык уваж ты клопаты,
Рыбіны заходы!
Гэта расшалопай ты,
Кінь згрызоты – зводы!
Слухала тут рыбка,
Шорхла яе скура,
А той рак ні рухнуў
І маўчыць панура.

XI

Ах бадай-жа ён скіс
Гэты рак вусаты!
Проста плягаю зьвіс
Сум яго зацяты.
Нарабіў грамадзе
Клопату па вушы—
Вухам, гад, не вядзе,
Хоць бы клешняй рушыў!
І ня ўжо-ж, грамада,
Не дасі ты рады?
Проста сьмех і бяда
З гэтакае звады...
І пашла на задор
Тая пашалоча.
Кінеш, рак, сваю хвор—
Грамада так хоча!
Моц яе не мала—
Дай ёй разгарэцца!
Пагалоска пашла
Аб раку на рэчцы.
Слухаў бусел, маўчаў,
Думаў, а нарэшце
Чаплі штось прабурчаў,
Ну, як зяць да цешчы.
Чапля крыльлем — лоп-лоп



І ляціць да рыбы. Мусіць, бусел на троп
Тут павёў бяз хібы. І ў разгар тых прамоў
Чапля прэ да сома:—Без чаргі прымі, моў:
Дэлегат птушкома. Даюць чаплі слова
Вось яе прамова:
„Таварышы! рэчка—наша агульная справа,
І пашла аб ёй нядобрая слава,
Што рыбы, пташкі і травы
Ня могуць справіцца з ракам,
З упартым нейкім дзіваком,—
Выпадак, праўда, ня цікавы
Папробуем заклікаць жыта—
Прывяду яго сама і—квіта.
Калі ён і яго не паслухае,
Тады палкі панюхае".
Рыбка зьбіўшыся пад мосьцікам,
Папляскала чаплі хвосьцікам.
— Дзякуй табе, чапленька!
Патурбуйся, родная,
Паміpae рачанька,
Галава нягодная.
Справа то грамадзкая,
Почасьць будзе хвацкая:—
Як справу тую выпаўніш—
Запішам мы цябе
На дошчачку чырвоную,
На вербачку зялёную мы вывесім яе.—

(Канец будзе.)

НАША ЖЫЦЬЦЕ

## Асіповіцкі атрад імя „КІМА“.

### Працуем з неорганізаванымі дзецьмі.

За апошні час навучальнага году праца піонэраў нашага атраду з неорганізаванымі дзецьмі пашла добра. Гэта затым, што мы перад кожным піонэрам нашага атраду паставілі задачай: абавязкова прысутнічаць на сходах атраду, або на занятках зьвеньняў і прыводзіць з сабой таварыша, не піонэра. Так што ў гэтай галіне працы мы маем вялікае дасягненьне: вырaслі на цэлае зьвяно, павадыром якога зрабілі старэйшага піонэра. Цяпер мы паставілі мэтай — масавае ўцягваньне ў атрад неорганізаваных дзяцей. З гэтай мэтай мы пачалі рыхтавацца да вечару, на які заклікалі ўсіх сяброў і іх дзяцей тых саюзаў, пры якіх знаходзіцца наш атрад. На вечары мы паставілі даклад павадыра атраду, невялікую п'еску з піонэрскага жыцьця і зрабілі радыё-газэту. Думаем, што наш атрад і надалей гэтак-жа добра будзе працаваць з неорганізаванымі дзецьмі.

## Зьвеньні перайменаваны.

Пры падліку працы атраду за зімовы час, выявілася, што заданьні нашых зьвеньняў зусім не прапрацаваны. Адначасна выявілася, што назовы нашых зьвеньняў „Юны барацьбіт“ і „Авіяхім“ калі заставіць і надалей, то усёроўна той працы, якая-б адпавядала гэтым назовам, мы ня выканаем, бо няма належных умоў. У зьвязку з зьнішчэньнем гэткага зьявішча, мы парашылі зьмяніць назвы зьвеньняў. Узялі назвы больш прасьцейшыя, больш спрыяючыя ўмовам жыцьця нашага атраду: „Сав. Працаўнік“. „Санітар“ і трэцьцяму зьвяну, якое толькі нядаўна організавалася, далі назву „Юны натураліст“.

На далей нашы зьвеньні апрацавалі плян працы на тры м-цы і приступілі да выкананьня.

*Міхась Чырвоны.*

## Як працуе наш атрад.

*(Пасёлак Рудзенск).*

У 1924 годзе ў сакавіку організаваўся атрад юных піонэраў. Спачатку праца йшла добра. Нават над намі ўзяў шэфства мясцовы коопэратыў, які адразу дапамагаў нам добра, выпісаў газэты дапамагаў праводзіць працу і г. д. Але праз некалькі месяцаў кінуў дапамагаць нашаму атраду, так што мы засталіся, было нават, без газэт. Але ў той час мы трымалі добрую сувязь з гарадзкім атрадам, які некаторы час дапамагаў нам. Цяпер над намі трымае шэфства другі гарадзкі атрад, які прысылае да нас комсамольцаў і піонэраў для правядзеньня гутарак і г. д. Апрача гэтага выпісвае нам літаратуру, газэты і некаторыя піонэрскія часопісі.

**П. Ш.**

## Сумесны сход з бацькамі.

*(Койданаўскі раён).*

Нашымі 3-ма атрадамі юных піонэраў быў зроблены сумесны сход з бацькамі. Парадак сходу быў наступны: 1) азнаямленьне бацькоў з працай піонэраў; 2) справаздача зьвеньняў, а пасьля гэтага ўсімі атрадамі былі зроблены выступленьні. Сход сумесна з бацькамі прашоў добра. І надалей маем надзею, што будзем часьцей праводзіць нашы сходы сумесна з бацькамі.

**Тры Міхасі.**

## Маем клюб.

*(Вёска Карпілаўка, Глускі раён).*

З першага мая мы маем свой клюб. У нашым клюбе маюцца розныя гурткі, а таксама ёсьць бібліотэчка, якой карыстаюцца піонэры і неорганізаваныя дзеці. Клюбная праца йдзе добра; выходзіць насьценная газэта, у якой прымаюць удзел усе піонэры і лепшыя неорганізаванныя дзеці.

*М. Жылка  Э. Каплан.*



## Наладзілі сувязь.

*(Узда, II-і атрад).*

Наш атрад трымае сувязь з двумя вясковымі атрадамі ЮП і аднэй дзіцячай групай. Уперад сувязь з гэтымі арадамі ня вельмі што была добрая, але з часам у нашым атрадзе вылучылі зьвяно дзеля таго, каб трымаць з імі сувязь. Дзякуючы гэтаму, наша сувязь значна палепшылася. Мы ім шлём лісты, абменьваемся вопытам у працы і г. д.

Дзяткорка **Р. Дыкштэйн.**

## За пашырэньне часопісі.

Ня гледзячы на тое, што з кожным № „Беларускі піонэр“ усё больш якасна паляпшаецца, тыраж яго слаба расьце. Яшчэ ў шмат якіх атрадах і асобных піонэраў часопісі і са сьвечкай не знайсьці. Многія абыходзяцца бяз „П. Б.“, лічачы больш карысным выпісаць якую небудзь піонэрскую часопісь з Масквы.

Пытаньне аб пашырэньні часопісі павінна зараз паўстаць перад кожным атрадам. „На кожнае зьвяно па 1 экзэмпляру!“—павінна стаць нашым лёзунгам. Гэта ўсяго 2—3 капейкі з кожнага піонэра. Трэба таксама дамагацца і індывідуальнай падпіскі. Раёныя бюро Ю. П. павінны сачыць за выпіскай атрадамі час. „Беларускі Піонэр“.

*І. Зельцар.*

## Улетку.

Рэчка плюскоча пад сонцам,
Срэбныя хвалі бягуць.
Ўсюды павук тчэ красёнцы;
Мошкі, кузуркі гудуць.

Дзетак ня знойдзеш у хаце,
Гуртам на рэчку бягуць,
Тут іх „вялікія раці“,
Роем пчаліным гудуць.

І паскідаўшы кашулі,
Ў рэчку зажараць нырца.
Песьні тут, крыкі і гульні,
Радасьць цьвіце без канца.

**К. Шавель.**

# Дзеці „Сярпа і Молата“.

Увосень 1924 года ў дзіц. калёніі „Серп і Молат“ сталі гуртавацца дзеці навакол комсамолу.

Комсамольцы часта праводзілі гутаркі з дзецьмі і тлумачылі ім аб вялікай ролі організацыі дзяцей у комуністычныя групы. Асабліва ў гэтым напрамку шмат было зроблена прадстаўнікамі акругового камітэту і Бюро ЮП. Ужо ў студзені месяцы, у 1925 годзе, 50 чалавек былі падрыхтаваны да ўступленьня ў піонэр. атрад, які 21 студзеня таго-ж году залажыўся.

Дзеля кіраваньня атрадам яч. КСМ высунула аднаго сябра, але напрамку працы ва ўсіх яе галінах сама ячэйка добра ня ведала і атраду прышлося самому памаленьку, „вобмацкам“ ісьці наперад, узмацняючы і пашыраючы сваю працу.

У гэты час галоўным чынам зьвярталася ўвага на выхаваўча-політычны бок. Да травеня месяца ў піонэр-атрадзе ўжо была свая невялічкая бібліотэка, але кніжак з яе чыталася вельмі мала. Саветам атраду быў высунуты лёзунг: „Кніжка ў гушчу дзяцей“. —У гэты час дзеці гуртаваліся навакол дома і ў сталовай. Савет атраду высоўваў сяброў, якія чыталі голасна газэты і часопісі. Раскладвалі, кніжкі, газэты па сталох, каб кожны змог падыйсьці, паглядзець сам, або паслухаць што чыталася. Такая пастаноўка працы бібліотэкі не магла не зацікавіць дзяцей, і літаратура праз некаторы час была знаёма амаль што ўсім.

Такім чынам лёзунг, высунуты саветам атраду, быў праведзены ў жыцьцё.

У далейшым атрад паставіў перад сабою ня меншую другую задачу—сувязь з акружаючымі неорганізаванымі дзецьмі. Трэба адзначыць, што між дзецьмі калёніі і вясковымі да таго часу адбываліся частыя нялады. Дзеля гэтай працы атрад высоўвае мацнейшых таварышоў, якія хадзілі разам з вясковымі дзецьмі купацца, гутарылі з імі аб піонэрах, заклікалі іх удзельнічаць у гульнях і спэктаклях.

За летні час з сялянскіх дзяцей у наш атрад уступіла толькі два хлапцы, але ў сьвяточныя дні на гульні і спэктаклі ў калёнію прыходзіла вельмі шмат дзяцей сялян, бібліотэку наведывалі да 50 чалавек. Уцягнуць у піонэрскі атрад больш дзяцей ня было магчымасьці, бо яны былі заняты ў гаспадарцы бацькоў. З надыходам школьных заняткаў грунт дзеля працы палепшаў і атраду за зімовы час удалося згуртаваць навокал сябе вялікі лік дзяцей, і ўцягнуць у атрад 19 чалавек. У сучасны момант вясковыя дзеці з нашымі зьяўляюцца лепшымі таварышамі, прымаюць разам удзел у агульна-грамадзкай працы.



У бібліотэцы („Серп і Молот“).

Працоўнае выхаваньне вядзецца шляхам удзелу дзяцей у працы на полі, у садзе й агародзе. Акрамя таго ў калёніі вядзецца самаабслугоўваньне дзіц. дома сіламі саміх дзяцей.

Вынікам з усёй гэтай працы зьяўляецца поўная сувязь з акружаючымі дзецьмі, зацікаўленасьць у чытаньні часопісяй і газэт і поўны пералом погляду на працу.

**Павадыр атраду.**

# ТОЕ, ЧАГО НЕ ПАВІННА БЫЦЬ.

## Сірата казанская.

Нам пішуць, што:



Піонэрскім садам у м. Зембіне, які адчынены ў мінулым годзе, сёлета заўладалі сьвіньні. Гэтыя-ж сьвіньні нятолькі жывуць там, але і праводзяць сваю працу па дагляду сада... Сад увесь знаходзіцца ў дрэнным выглядзе, бо „сьвіны атрад“ вядзе сябе зусім „неорганізавана“, аніяк не шануе гэтага сада.

**С. Федаровіч.**

А як-жа піонэрскі атрад глядзіць на гэткае зьявішча? Няўжо-ж ён і застанецца ў становішчы сіраты казанскай і ня здолее прад'явіць сваіх праў на свой сад? Ці не падумаць-бы вам, таварышы піонэры Зембінскага атраду, аб гэтым?..

## Ці-ж гэта піонэры?..

Гэтак ставіць пытаньне т. Лянкевіч, пішучы свой допіс аб Семяжаўскім атрадзе, Слуцк. вакругі.



У атрадзе маецца хлапцоў каля 10-ці, якія заўсёды цягаюцца ўначы па вуліцах да 12 г. і ўстрайваюць розныя скандалы. Часта робяць яны свае напады на піонэрак атраду, якіх у нашым атрадзе маецца толькі тры.

Такіх піонэраў ніхто ня ведае. А калі ніхто іх ня ведае, значыць, яны не піонэры. І ваш атрад дапусьціў вялікую памылку, калі трымае іх у атрадзе.

## Хіба-ж ён апошні?

Павадыром нашага атраду, які організаваўся ў лютым м-цы 1926 г., быў вылучаны ячэйкай т. Кулік. Т. Кулік сваёй нядоўгай працай адбіў ахвоту ў піонэраў працаваць у атрадзе. Урэшце ён зусім адмовіўся ад павадырства і нават падаў заяву аб выхадзе з ячэйкі. Атрад наш застаўся без павадыра.

Вёска Бучаціна, Слуцк. вакругі

**Янка Жабрэйка.**

Нам здаецца, што атраду ня варта заставацца без павадыра толькі таму, што адмовіўся т. Кулік. Апрача Куліка, у ячэйцы-ж, здаецца, яшчэ маюцца комсамольцы. Хіба-ж ён апошні і ў ячэйцы, і ў атрадзе? Ячэйцы сорамна гэтага ня ведаць.

## Гора-павадыры.

Бязумоўна, калі стала падумаць, павадыры тут ніпрычым. Ну, што-ж яны вінаваты, што іх вылучыла ячэйка на тую працу, якая іх ня цікавіць. Але, калі ячэйка ня цікавіцца падборам павадыроў—гэта ўжо зусім іншая рэч. Гэта ўжо шкодны недагляд. А гэткіх недаглядаў з боку ячэек у нас пакуль што шмат. Вось прыклад:

Сёлета павадыра нашага атраду ячэйка пераняніла. Назначылі для працы ў атрадзе новых таварышоў: павадыра і яго памоцніка. Атрад раней пры старым павадыру працаваў добра. Цяпер уся праца замерла. Новыя павадыры ані ня цікавяцца сваёй працай, а адгэтуль вышла тое, што бяз належнага кіраўніцтва ўсялякая ахвота да працы саміх піонэраў значна зьменьшылася.

Бесядкоўская с.-г. комуна, Хацінскага раёну.

**М. Чорны.**

Ці не паставіла-б ячэйка гэтае пытаньне на павестку дню, хоць у бягучых справах?



# ПЯТАЧОК.

*(Апавяданьне вучня* **В. КАЗЛОЎСКАГА***)*

У ваднэй вёсцы жыў хлопчык Ігнат. Бацька яго, Мікалай, хадзіў у горад на заработкі, ды і Ігната часта браў з сабою туды, дзе ён сам працаваў. У горадзе Ігнат спадабаўся перакупшчыку.

— Пакінь у мяне свайго сына,—сказаў перакупшчык Мікалаю. Я яго буду адзяваць, карміць ды яшчэ і вывучу яго так, што ён, калі прыдзе яго пара, дык і сам перакупшчыкам будзе. Мікалай падумаў, падумаў пра сваю беднасьць ды й згадзіўся.

Шмат часу Ігнат жыў у горадзе, у вялікім доме, і кожны дзень ён быў адзеты, абуты і накормлены. Што перакупшчык яму не даручаў, усё ён выпаўняў добра. Усякія тавары, а нават і грошы, даручаў перакупшчык Ігнату, і ніколі не заўважыў, каб Ігнат зрабіў што-небудзь кепскае.

Аднаго разу перакупшчыку прынесьлі цэлы мяшок грошай, сярэбраных грыўняў ды медзяных пятачкоў. Як нарадзіўся Ігнат, дык ня бачыў гэтулькі грошай. Ён доўга любаваўся, гледзячы як перакупшчык зьвінеў грыўнямі і расстаўляў іх кучкамі, каб лягчэй было лічыць. Вось перакупшчык палічыў грошы, усыпаў ізноў у мяшок, а мяшок з грашыма запёр у куфар і вышаў вон са двара. Ігнат глянуў на стол, аж бачыць на стале застаўся адзін пятачок ды гэтакі прыгожанькі, новенькі! Хацеў ён закрычаць перакупшчыку, што той заставіў пятачок, але застанавіўся ды задумаўся. А як задумаўся, дык на душы, як быццам хто загаварыў: бач, у перакупшчыка цэлы мяшок гэтакіх пятачкоў, дык ён і не заўважыць гэтага аднаго пятачка. А табе і пятачок прыгодзіцца.

Прыслухаўся Ігнат да сваёй кепскай думкі і палажыў пятачок у кішэню. Перакупшчык і не заўважыў, што згубіў пятачок, а Ігнат купіў сабе кухан. Як зьеў ён кухан, дык яму яшчэ захацелася. Ухваціўшы часу, ён у перакупшчыка ўкраў цэлы рубель, але і рубля не надоўга хваціла. З гэтага часу накінулася на Ігната сумнасьць, аб грашох толькі і думаў, аб тым, як-бы сьцягнуць. Спачатку ён краў рублямі, а пасьля болей і болей, а раз так многа ўкраў грошай у перакупшчыка, што нават сам ня мог пералічыць.

Але выйшла кепска. У хуткім часе пасьля гэтага вялі арыштаваных людзей праз тую вёску, дзе раней жыў Ігнат. Людзі стаялі па бакох дарогі, глядзелі на арыштаваных і падавалі капейкі бедным людзям. Раптам адзін з арыштаваных, зусім малады хлапец, застанавіўся на хвіліну, кінуўся на шыю стаяўшаму старому чалавеку з сівай барадою, моцна заплакаў і сказаў:

— Ах, тата, пятачок мяне згубіў. З пятачка я пачаў ды вось да чаго дайшоў...

Гэта і быў наш Ігнат.

---

## Кроплі бліскучыя.

Кропля за кропляю,
кроплі бліскучыя,

Кроплі вандроўныя!

— Зазелянела зямля!
Траўкай рунеюць
Даліны асмуглыя.

— Гэта вясна!

Новая сьветлая,
сьветла-жаданая

Наша красуня—вясна!
Радасьць зьвіваецца,

Радасьць праменьнямі
Руні вітае палі...

Першая вестанька,
Вестка вясновая...

— Ты сарамлівасьцю дзіўна каханая

Радасьць—пралеска мая!

Кропля за кропляю—
кроплі бліскучыя,

Сонцам сатканые...
Шчасьце жаданае

Весела край наш спаткаў.

**З. Б.**

# У лягеры.

*(Малюнак).*

Падыходзіць вясёлая летняя пара. У школах канчаюцца заняткі. Шмат якія піонэратрады ў гэтым годзе паедуць у лягеры. І, між іншым, многія атрады нават ня ведаюць, што яны будуць рабіць у лягерах, і зусім ня рыхтуюцца да гэтага. Вось у гэтым малюнку я раскажу вам, як наш добры, вытрыманы ў комуністычным духу 13-ы атрад выехаў у лягер і што з гэтага здарылася.

* * *

Здарылася ўсё гэта нечакана. Нават аб гэтым ніхто ў атрадзе і ня думаў. На сходзе атраду наша павадырка, Чэрня Міранбург, у бягучых справах зрабіла маленькую абвестку:

**„Сёньня а 6-ай гадзіне увечары наш атрад сумесна з 33-м атрадам выязджае ў лягер. Трэба адпрасіцца ў бацькоў, і а 6-й гадзіне быць на Аляксандраўскім вакзале. З дому нічога, акрамя адзеньня, браць ня трэба“.**

Вядома, што пасьля гэтых слоў Чэрні распачаліся вялікія спрэчкі. Некаторыя гаварылі, што іх бацькі не адпусьцяць, другія баяліся зусім выехаць на вёску... Але ў канцы парашылі, што, калі бацькі не адпусьцяць, трэба ўцячы і што, у парадку піонэрскай дысцыпліны, а 6-й гадзіне ўсе піонэры павінны быць на Аляксандраўскім вакзале.

* * *

Як і трэба было чакаць, бацькі і слухаць не хацелі аб лягеры.

Юрка Кудрашоў у 7-мы раз прымаўся за працу па пераконваньні свайго бацькі, але той і слухаць не хацеў Юркі. І раптам ён спытаўся ў Юркі:

— Ну, скажы, што ты там будзеш рабіць? Што ён азначае сабой твой лягер?

Юрка толькі вачыма заморгаў.

— Лягер... Лягер... гэта такое... як табе сказаць... і ён раптам моцна заплакаў.

Бінька Ашаровіч прабаваў было падыйсьці да бацькоў з другога боку:

— Ну слухай тата. Мы павінны паехаць для таго, каб трымаць змычку з вёскай, загартоўвацца для барацьбы за справу рабочай клясы...

Але і тут нічога ня вышла...

* * *

А 6-й гадзіне на вакзале сабралася толькі 25 чалавек і з іх 15 уцякло з дому... у парадку піонэрскай дысцыпліны.

Паехалі.

* * *

Лягер знаходзіўся ад гораду ў 8-мі вярстох.

Хутка разлажылі палаткі і ўсе, апрача савету лягеру, разышліся спаць. А савет лягеру доўга радзіўся аб рэгляманту лягеру, аб тым, як зрабіць напад на блізкі ад іх лягер 33-га атраду, аб начных трывогах і г. д.

* * *

Увесь сёньняшні дзень пайшоў на падрыхтоўку для нападу на лягер 33-га атраду.

Мы рабілі маскі, розныя капканы, хадзілі ў разьведку і г. д.

Прыходзілі да нас у лягер і вясковыя хлапцы, і калі яны пачалі прыглядацца да нашай працы, Ешка Лазебнік стаў у позу і спытаўся:

— Вы—піонэры? партыйныя?— Не.

— Не! Ну, дык беспартыйным тут хадзіць строга забараняецця. Кацецеся...

Хлапцы пайшлі. Але з тэй пары паміж піонэрамі і вёскай спрэчкі ня ўнімаліся.

* * *

Увечары піонэры зрабілі нападзеньне, але ў лягеры 33-га атраду, як быццам ўсе ведалі аб гэтым і так далі нам, што ў піонэраў нашага атраду толькі пяткі падлятвалі, і калі мы прыбеглі ў лягер, там ўсё было раскідана, засыпана пяском, не хапала двох коўдраў і на аднэй з палатак было напісана вялікімі друкаванымі літарамі:

„Піонэры юныя, галовы чугунныя,
Шпана беспартыйная“.

На другі дзень прышоў старшыня сельсавету і гутарыў з Чэрняй аб тым, што мы патапталі поле ў час нападзеньня.

* * *

Пагода стаяла няпрыемная і, як на грэх, захварэла 4 піонэраў. На другі дзень захварэла яшчэ два, потым яшчэ і яшчэ, з лягеру хутка уцякло 5 чалавек і потым яшчэ некалькі. Ды вясковыя хлапцы не давалі працаваць атраду.

І паехалі ў горад праз тыдзень з 10-ю чалавекамі, з іх 8 хворых, і кожны думаў аб тым, што яго чакае дома.

* * *

Хай гэты малюнак паслужыць навукай другім атрадам, выязджаючым сёлета ў лягер.

**М. Таўбэ.**




## Аб зьбіраньні колекцыяў кузурак і расьлін.

Кожны піонэр павінен добра ведаць тую мясцовасьць, у якой ён жыве. Каб добра ведаць сваю мясцовасьць (раён, сельсавет), неабходна яе вывучыць. Патрэбна вывучаць усе бакі жыцьця данай мясцовасьці: быт насельнасьці, гісторыю, эканоміку і прыроду.

Лягчэй за ўсё для піонэраў будзе вывучэньне мясцовай прыроды. У вясновы і летні час атрад піонэраў, паміж іншым, можа заняцца складаньнем зьбіранак (колекцыяў) мясцовых расьлін і кузурак. Гэта праца надта цікавая і карысная, бо тут піонэры знаёмяцца з умовамі жыцьця як расьлін, так і жывёлін, бачаць іх прыстасаваньне да варункаў жыцьця і вывучаюць назвы.

Мал. № 2.

Для зьбіраньня матар'ялу павінны рабіцца агульныя экскурсіі ў лес, у поле, на рэчку, балота і луг. Пажадана, каб кіраўніком экскурсіі была асоба, якая большменш знаёма з прыродазнаўчымі навукамі.

Кузуркі ловяцца асобнымі прыладамі, якія завуцца *сачкамі* (мал. 1.) Сачок складаецца з палкі, даўжынёю ў 2 мэтры, драцянога абручыка і белай празрыстай тканіны (марлі), якая сшываецца ў форму стажка і прымацоўваецца да абручыка. Кожны піонэр зможа зрабіць сабе такі сачок.

Злоўленую сачком (альбо рукамі) кузурку трэба атруціць. Найлепшай атрутай для кузурак зьяўляецца *серкавы эфір*, які можна купіць у кожнай аптэцы. Каб атруціць кузурку, досыць узьліць ёй на галаву некалькі кропель эфіру. Пасьля атручэньня кузурка пратыкаецца шпількаю і прыклейваецца на фанэрную дошчачку альбо на кардонку, дзе ёй надаюць належную форму: расхіляюцца стуляныя крыльлі (у матылёў), выпростваюцца ножкі, вусікі і чараўцо (мал. № 2). Праз колькі дзён кузурку здымаюць з дошчачкі і пераносяць у скрынку, прыстасаваную для колекцыі. Поруч з кузуркай прыклейваецца паперка, якая завецца *этыкетка*. На этыкетцы павінна быць адзначана месца, дзе была знойдзена кузурка, час знаходжаньня, мясцовая альбо навуковая назва кузуркі і ўласны подпіс піонэра, які знайшоў кузурку.

Травяныя расьліны для колекцыяў трэба абавязкова браць з карэньнямі, лістамі і кветкамі. Расьліны, прызначаныя для колекцыяў, трэба засушваць. Дзеля гэтага іх кладуць між складзеных лістоў прапускное альбо газэтнае паперы і кладуць між дзьвёх дошчак, якія павінны мець гладкую паверхню і шчыльна стыкацца. На дошкі кладзецца які-небудзь цяжар—камень альбо цагліны, дзеля таго, каб часткі расьлін (асабліва лісты і кветкі) не пакурчыліся. (Мал. № 3).



Мал. № 1.



Мал. № 3.

Каб захаваць за расьлінамі натуральны колер лісьця і кветак, *іх неабходна сушыць у тым месцы, дзе няма вільгаці.* Праз 4—5 дзён расьліны высыхаюць і пасьля гэтага іх наклейваюць на ліст белай тоўстай паперы, альбо на белы кардон.

Поруч з расьлінай зьмяшчаецца этыкетка, дзе адзначана: назва расьліны, месца дзе была знойдзена, час цьвіценьня і ўласнае прозьвішча знайшоўшага расьліну.

Набытыя колекцыі мясцовых расьлін і кузурак піонэры могуць здаваць для аховы ў мясцовыя краязнаўчыя організацыі альбо ў школы.

**Яз. Гарасімовіч.**






# Дзеля чаго нам патрэбна зямля на канцавосьсі.

Дэкрэтам Прэзыдыуму ЦВК зямля і вастравы, якія ляжаць на поўнач ад цёплага („аркцічаскага“) узьбярэжжа СССР паміж двома мэрыдзіянамі нашай усходняй і заходняй граніцы, зараней аб'яўлены тэрыторыей нашага Саюзу. Усходні мэрыдзіян праходзіць праз Бэрынгаву пратоку... і аддзяляе нас ад амэрыканскіх земляў, заходні праходзіць праз Вайда-губу і аддзяляе нас ад Фінляндыі. Паміж абодвымі мэрыдзіянамі знаходзіцца прастора ў 159°, г. з., чатыры дзевятых, крыху менш паловы, ўсёй круга-палярнае зоны.

Гэта адпавядае вагромнай шырыні нашага цёплага пабярэжжа і значэньню нашае палярнае поўначы.

Наша эўропейская і усходня-амэрыканская часткі цёплага („аркцічаскага“) акеана, зьвернутыя к уваходу ў Атлянтыку, больш-менш дасьледаваны. Азіяцка-амэрыканская частка зьяўляецца апошняй белаю плямаю на карце зямлі. Вось сюды і накірованы насы дырыжабляў і гідраплянаў Амундсэна, Вількінса і Бэрда.

Што можна там знайсьці?

На карце мы бачым, што ўсходня-азіяцкі і заходня-амэрыканскі берагі высоўваюцца к поўначы значна менш, чымся Грэнляндыя і сетка вастравоў паўночна-усходняй Амэрыкі, якія з Грэнляндыяй разам складаюць адзін агульны востраўны сьвет. Эўропа з свайго боку высоўвае ў палярны акеан тры форпосты: Шпіцберген, архіпелаг Франца Іосіфа і Новую Зямлю (вастравы).

Можна амаль што ўпэўнена сказаць, што недасьледаваная белая пляма зьмяшчае ў сабе новы востраўны сьвет, больш-менш вялікі і блізкі да канцавосься. Гэтага патрабуе раўнавага сухазем'я і мора ў полярным акеане. Праўда, можа быць і працівалеглае. Атлянтычны акеан і паўночная палова Ціхага акеяну надзвычайна бедныя вастравамі, паміж тым, як у паўднёвай палове Ціхага акеана раскідан востраўны сьвет і зьмяшчаецца частка сьвету Аўстралія, якая па сваёй прасторы роўная Грэнляндыі.

Роальд Амундсэн спадзяецца знайсьці ў гэтым новым палярным краі нават чалавечае насельніцтва, у гэтым можна сумнявацца. Калі якое небудзь кіталоўнае судно з матросамі і жанчынамі было занесена туды воляй буры і плыні і ўмудрылася прабрацца праз страшны лёд бяз сьмяротных выпадкаў, то ўсёроўна гэтыя людзі вымерлі-б. Чалавечыя расы такімі невялічкімі гурткамі не размнажаюцца.

Затое бяз сумненьня можна сказаць, што на гэтых невядомых палярных вастравох жыве другое насельніцтва: мільёны цюленяў розных парод, маржэй, белых мядзьведзяй і іншых морскіх зьвярэй.



Можа быць небясьпечным, што калі культурнай Эўропе і Амэрыцы ўдасца наладзіць з гэтым прадбачным сьветам паветравыя зносіны, а там адчыніць промыслы, то параўнаўча ў кароткі час асноўнае месцазнаходжаньне палярнага зьверу будзе спустошана. Аматары нажывуць на гэтай справе вялікія грошы, а чукчам і эскімосам застанецца вымерці з голаду.

Для паветравых зносін эўрапэйскім форпостам зьяўляеецца Шпіцберген. Па той бок канцавосься маленькі нязначны астравок, кавалак зямлі атры-

мае надзвычайна вялікае значэньне. Там, можа быць, спусьцяцца аэропляны нават і зараз і паставяць сьцягі. Там могуць разыграцца праз некалькі гадоў акты палярнага імпэрыялізму праглых дзяржаў, зацікаўленых у паўночным паветравым шляху. Гэты паветравы шлях набудзе сусьветнае значэньне. Ен значна карацейшы для зносін старога і новага сьвету, чым усе іншыя магчымыя шляхі. Палярная лінія Токіо—Лёндан—5000 міляў.

Пачнецца, напэўна, паштовы рух, потым пасажырскі, а там, магчыма, пяройдуць і да лёгкіх цяжараў.

Паветравым шляхам будзе адбывацца снабжэньне паўночных станцый навуковых і прамысловых; быць можа, палярныя пабярэжжы будуць абслугоўвацца паветравым шляхам.

Белая пляма прыходзіцца самай сярэдзінай супроць Бярынгавай пратокі. Такім чынам, прыкладна, палова тэрыторый, якія падлягаюць магчымаму адкрыцьцю, абвешчаны землямі СССР.

Раней было ўспамянута аб актах палярнага імпэрыялізму. За гады рэволюцыі нам прышлося спаткаць і на паўночным моры ня мала нападаў.

Шпіцбэрген, адкрыты расійскімі паморамі тры стагодзьдзі таму назад, захоплен нашымі суседзямі і ад нашых прадпрыемстваў на востраве не засталося і сьледу. Прышлося прыняць належныя захады па ахове вострава Новая Зямля, а апошнія два гады па ахове вострава Ўрангеля, які ляжыць ў Чукоцкай зямлі.

Гісторыя амэрыканскай авантуры з захопам вострава Ўрангеля і наступнымі нападамі варта таго, каб расказаць аб ёй падрабязна.

Востраў Ўрангеля быў нанесены на карту вядомым дасьледчыкам Урангеля па паведамленьням чукоч у 1822 г. Дзьве спробы Ўрангеля прабрацца на востраў праз лёд засталіся бяз посьпехаў. З 1881 г. расійскія і амэрыканскія судны нападаюць на востраў. Тут, паміж іншым, была эспэдыцыя барона Толя, якая загінула бяз сьледу. Лепшае апісаньне вострава зроблена расійскім гідрографічным судном „Вайгач“ у 1911 годзе.

1914 г. першая шхуна „Карлу“ канадзкай эспэдыцыі Віальмура Стэфансона была зацёрта лядзінамі ў берагоў вострава Ўрангеля. Шхуна была раздаўлена. Частка людзей загінула, а 9 чалавек былі зьняты пасьля амэрыканскай прамысловай шхунай. Амэрыканцы нашлі вельмі шмат зьверу на вострове Ўрангеля.

1921 годзе Стэфансон наладзіў новую эспэдыцыю, якая на востраве Ўрангеля падняла ангельскі сьцяг.

Аднак, пасьля расійскага протэсту, ангельскі ўрад заявіў, што ў адносінах да вострава ён нічога ня мае.

Стэфансон і К⁰ не супакоіліся на гэтым. У амэрыканскіх газэтах і часопісях за 1924 год сталі пападацца спэцыяльныя артыкулы аб прамысловых яго плянах. Агэнт Стэфансона, Уэльс, з гуртком белых і эскімосаў быў перавезены на востраў для драпежнага промыслу. З горада Номе, на Аляске, туды-ж накіравалася шхуна „Герман“, наладжаная другой кампаніяй авантурыстаў з багатай сям'і Ломан.

Шхуна „Герман“ не змагла прабрацца праз лёд на востраў Урангеля і пасьпела толькі падняць яшчэ адзін сьцяг, ужо амэрыканскі, на другім востраве Гэрольда, за сорак міляў ад Урангеля.

Для ліквідаваньня гэтых спробаў было накіравана судно „Чырвоны Кастрычнік“. Яно дабралася на востраў пасьля цяжкага плаваньня 20 жніўня 1924 г. і зьняло драпежнікаў разам з іх сьцягамі і здабычай.

Драпежнікі былі зьвезены ў Уладывасток, акуль іх потым пусьцілі. У іх было 40 шкурак белага мядзьведзя і значная колькасьць спецоў.

На судне было некалькі чукоч з Бэрынгавай пратокі... якія, убачыўшы вялікую колькасьць зьверу на Урангеле, выявілі жаданьне перасяліцца туды з сем'ямі і заснаваць паселішча. На зваротным шляху судно было зацёрта лядзінамі і чуць выбралася.

Рашучы крок СССР падзейнічаў ѳздараўляюча, і новай спробы захапіць востраў ня было зроблена і да гэтага часу. Амэрыканскія драпежнікі баяцца расійскага арышту. Яны ўпэўнены, што іх зараз-жа пашлюць на катаргу на падземную працу.

Зараз пастаўлена пытаньне аб новай эспэдыцыі на востраў Урангеля на спэцыяльна пабудаваным параходзе.

Ён возьме з сабою з Чукоцкага Носа тутэйшых колёністаў, снаражэньне і прыпасы на тры гады.

Можна спадзявацца, што ў выніку палётаў, якія будуць зроблены, праз канцавосьсе на нашай палове белай плямы знойдзецца яшчэ адзін востраў далей на поўнач ад Урангеля на 10⁰, яшчэ больш багаты морскім зьверам і шкурамі.

**В. Богараз-Тан.**

**Ад рэдакцыі.**

**Артыкул т. В. Богараз-Тана напісаны ўжо некалькі тыдняў таму назад і цікавы тым, што падрабязна спыняецца на разглядзе пытаньня аб канцавосьці і адносінах да яго розных дзяржаў.**

**Між іншым, канцавосьсе ужо адчынена. Першым пабыў там амэрыканец Бэрд, а пасьля праз некалькі гадзін і Амундсэн.**

**Дасканалае вывучэньне гэтага новага краю яшчэ ня зроблена.**






Той, хто ні разу не лавіў рыбы, лічыць, што гэта надта маркотная работа. Асабліва гэта бывае тады, калі нічога ня зловіш. Дзеля таго, каб быў посьпех у лоўлі, трэба ведаць рэчку, якая ў ей водзіцца рыба, а падругое трэба прыглядзецца, як цячэ рэчка—ціха ці шпарка,—ці высокія, ці нізкія берагі. Лоўля рыбы бывае розная.

**Лоўля рыбы з чоўна.** Дзе ёсьць вялікая, шырокая рэчка, рыбу можна лавіць з чоўна і асабліва раніцай і ўвечары. Вудзілна для лоўлі рыбы з чоўна бярэцца доўгае, гібкае і лёгкае. Калі кара з вудзілна садрана, то яго трэба чым небудзь памаляваць.

**Валасьня.** Робіцца яна ня тоўстай, ссукваецца прыблізна з 4 валасоў, толькі белага колеру. Валасьня да кручка не прывязваецца бо рыба можа адкусіць. Да кручка прывязваецца павадок, крыху таўсьцейшы ад самае валасьні. На гэтым павадку прымацоўваюцца 2-3 шрацінкі з волава на адлегласьці 1-2 цалі адна ад другой, па ліку трэйцяя прывязваецца каля самага кручка. Кручкі можна прывязваць такіх №: 14—15—10.

Абавязак гэтае маленькае шрацінкі трымаць насадку з кручком бліжэй дна. Усе тры шрацінкі не павінны быць цяжэй паплаўка. Паплавок можна зрабіць з кары, з гусінага пяра.

**Насадка.** Самаю лепшаю насадкаю, на якую бярэцца плотка, будзе чарвяк чырвонага колеру, якога можна знайсьці на дне рэчкі. Чарвяк праколваецца не ў даўжкі, а ў поперак, так, каб частка яго была вольнай ад кручка.



На рэчцы.

Апрача чарвяка рыбу можна лавіць і на мураўіныя яйца насаджваючы па 2-3 яйцы на кручок. Таксама можна рыбу лавіць і на чарвяка, які знаходзіцца ў гнаі, а таксама на парану пшаніцу, мясны чарвяк.

**Лоўля з берагу.** Для лоўлі з берагу трэба зразу ставіць тры вудачкі: адну на палавіну глыбіні рэчкі, другую крыху глыбей, а трэйцюю зусім на дно. Гэта робіцца для таго, каб ведаць на якой глыбіні трымаецца рыба.



**Лоўля ў забродку.** З берага звычайна ловяць раніцаю або вечарам. Позным вечарам ловяць у забродку, гэта значыць —вудзяць рыбу з паверхні вады. Пры гэтай лоўлі насадкаю можа служыць звычайная кузурка. Вудзілна робіцца лёгкае, тонкае, у 6-7 аршын даўжынёю. Валасьня ў канцы вудзілна робіцца чым найтаўсьцейшай, хоць-бы і ў 20 валасін, а даходзячы да кручка яна павінна быць ужо не таней 5 валасін. Насадкаю карыстацца можна такою: майскія жукі гусеніцы, буйныя мухі, авадні.

**Лоўля на жэрліцу.** Жэрліца складаецца з рагулькі, на якую наматваецца аршын 10-15 тонкае вяроўкі, таўшчынёю ў 1-2 мілімэтра. На канцы вяроўкі прымацоўваецца жалезны павадок і потым ужо к павадку прывязваецца кручок № 0 або № 1.

На кручок насаджваецца жывая рыбка. Жыўца пускаюць так, каб ён не дайшоў да дна на $1^1/_2$ аршына. Ставіцца жэрліца каля зарасьляў, кустоў. Каб вяроўка сама не зматвалася з рагулькі, яе можна прыкалоць іголкаю з канцом рагулькі.

**З. Падлужны.**

выпадках, калі лік удзельнікаў невялікі—у гульні прымаюць удзел усе піонэры і неарганізаваныя дзеці. У перапынку гульняў робіцца маленькая гутарка аб гісторыі і значэньні рэволюцыйнага сьвята альбо аб якой-небудзь працы піонэраў у час сьвяткаваньня (падрыхтоўка да дню ўраджаю, пабудоўніка пляцоўкі, пабудоўніка ў вёсцы маста і г. д.).

У працягу сьвята, па меры таго, як утамляюцца ўдзельнікі, трэба рабіць перапынкі на 5—10 хвілін, якія скарыстоўваць для тлумачэньня ўдзельнікам правіла гульняў. Акрамя таго, указаць точна месца, на якім павінна разгарнуцца гульня.

Трэба раней таксама прадугледзець усе неабходныя ўмовы для сьвята, як: вада—пажадана, кіпячоная, памяшканьне—на выпадак дрэннай пагоды.

У вясковых раёнах, дзе атрады знаходзяцца на вялікай адлегласьці ад цэнтру раёну і прыход піонэраў у раён будзе іх утамляць, магчыма практыкаваць правядзеньне сьвятаў па групах у мястэчку альбо вёсцы, навакол якой знаходзіцца 4-5 атрадаў. У такіх выпадках таксама кіраўніцтва застаецца за раённым бюро і пажадана, каб яго прадстаўнік прымаў удзел у сьвяткаваньні.

Для таго, каб мець развучаныя масавыя гульні, трэба скарыстаць часопіс „Беларускі Піонэр“, у якім яны друкуюцца. Удзел у сьвяце павінен прымаць таксама і настаўнік; ён зьяўляецца адным з каштоўных памоцнікаў.

Пасьля правядзеньня сьвята трэба пастарацца напісаць ліст у часопіс альбо газету, як яно прашло, якія недахопы і дасягненьні былі, і высьветліць гэта пытаньне ў атраднай насьценнай газэце. Пажадана запрасіць на сьвята і бацькоў піонэраў.

Вось аб чым мы сягоньня хацелі гутарыць. Аб іншай летняй працы—у другі раз. **Міхась.**

# Піонэр, памятай чацьверты закон.

Надышло лета. Усю сваю працу атрад пачынае разгортваць на вольным паветры. У сувязі з гэтым, мы ставім сваёй задачай ахапіць неарганізаваную масу дзяцей атрадамі. Гэта задача можа быць выканана толькі тады, калі кожны піонэр зразумее і практычна выпаўніць чацьверты закон: „Піонэр арганізуе акружаючых яго дзяцей, ён павінен быць прыкладам для іх“.

Паглядзім, як гэты закон выконваецца. Заўважваецца, што дзеці перастаюць цікавіцца піонэрамі, а гэта затым, што піонэры мала зацікаўлены працай сярод неарганізаваных. Часта піонэры даюць дрэнны прыклад для ўсіх іншых сваіх таварышоў тым, што вядуць сябе не папіонэрску.

З усяго гэтага відаць, што піонэры мала зьвяртаюць увагі на працу сярод неарганізаваных дзяцей, якім таксама хочацца гуляць, хочацца добра і разумна правесьці час. І вось у гэтым кожны піонэр павінен ім дапамагаць.

### Дзе і як працаваць.

Перш за ўсё патрэбна заваяваць сабе аўторытэт сярод дзяцей. Дзеля гэтага павінен піонэр быць прыкладным, гуляць разам з імі, а ў далейшым быць іх арганізатарам.

У ватрадзе кожны піонэр атрымоўвае шмат карыснага і ўсё гэта патрэбна і неабходна выкарыстоўваць для працы сярод дзяцей свайго двара, вуліцы і г. д.

Трэба старацца навучваць дзяцей тым гульням, якія могуць быць карыснымі і цікавымі для іх. Піонэр у вольны час павінен зьбіраць дзяцей на пляцоўку і чытаць разам з імі якую-небудзь піонэрскую кніжку, апавяданьне. Расказаць, што новага ў атрадзе, растлумачыць свае законы і звычаі, аб тым, як сябе трэба трымаць дома ў сям'і. Можна зьбіраць дзяцей, хадзіць з імі за горад, разам хадзіць купацца і г. д.

Улетку шмат якія жылтаварыствы арганізуюць дзіцячыя пляцоўкі. Піонэры, якія жывуць там, павінны прымаць асаблівы ўдзел у працы гэтай пляцоўкі.

Акрамя гэтага, магчыма наладжваньне на двары колектыўных градак, клумбачак, засаджваньне дрэў, а таксама і дагляд за імі. Піонэры з рэштаю дзяцей павінны быць зацікаўлены, каб было чыста на двары. Піонэр павінен прымаць удзел ва ўсёй гэтай працы і ўцягваць у яе неарганізаваных дзяцей. Кожны піонэр летам павінен паставіць сваёй задачай выпаўненьне, г. з. практычнае правядзеньне ў жыцьцё свайго чацьвертага закону. **Б. Ром.**

## ЗЬМЕСТ



Выданьне НКА БССР. Рэдактар—**Рэдколегія.**




## Задачы і загадкі.

*Пад рэдакцыяй А. Круталевіча.*

**Шарада № 1.**

Склад **першы** (летняя пара!)
Пачуем мы ў лясу.
**Другі** склад надае красу
Вырабам сталяра.
А **разам**—тое, з чым на вёсцы
Змагацца трэба нам бяз конца.

**Задачка слоў № 2.**

Знайсьці 6 слоў (кожнае з 5 літар), якія маюць наступныя значэньні:



1. Старасьвецкая залатая монэта.
2. Будыніна ў гаспадарцы.
3. Неабходны матэрыял пры будоўлі камяніцы.
4. Памяшканьне, дзе прадаюцца тавары.
5. Фігура ў картах.
6. Вароты.

Разьмясьціць іх па парадку адно пад другім, тады ў сярэдніх клетках, пры чытаньні **зьверху ўніз**, атрымаем прозьвішча вядомага Беларускага пісьменьніка.

**Задачка слоў № 3.**

З даных 16 літар скласьці 4 словы, якія маюць наступныя значэньні:

1) частка чалавечага цела,
2) дзеяньне пры спатканьні двух целаў,
3) быстраходная лодка,
4) вароты, якія робяцца падчас урачыстасьці.

| | | | |
|---|---|---|---|
| а | а | а | а |
| а | д | к | к |
| к | к | р | р |
| р | у | у | я |

Разьмясьціць гэтыя словы ў данай фігуры па парадку так, каб яны чыталіся аднакава, як зьлева направа, гэтак і зьверху ўніз.

**Галаваломка № 4.**

**Двума** ўдарамі сякера разрубіць падкову на **шэсьць** частак, не перамяшчаючы частак пасьля першага ўдару. Як гэта зрабіць?

**Задачка № 5.**



Які з двух нарысаваных слоікаў больш ёмісты (у якім большы аб'ём): правы—шырокі, ці левы—у тры разы вышэйшы, але ў два разы вузейшы?

**Задачка № 6.**

У вадным старасьвецкім рукапісе знойдзена задачка на множаньне двох лікаў, у якой не хапае многіх цыфр (яны ў нас адзначаны зоркамі). Ці можна дагадацца, якія гэта былі цыфры?—Вельмі лёгка! — Папрабуйце?

```
   ***
×  538
 ----
  ****
+2202
 ****
------
******
```

Прозьвішчы таварышоў, якія разьвяжуць задачкі, будуць надрукаваны.

---

## Заданьні.

1. Вазьмі палавіну „латы“, дадай лятуценьне і атрымаеш жан. імя?

2. Якую частку „ігрушы“ палажыць на „Б“, каб вышла муж. імя?

3. Узяць дробную французскую монэту, абутак і галос. літару—атрымаеш назву дня ў тыдні.

### Жарты.

—Сымонка, ты што робіш? Ня трэба цягнуць ката за хвост!

— Я-ж не цягну! Я толькі трымаю за хвост. Гэта кот цягне.

Маці. Паўля, ты зьеў аладкі з мёдам: я-ж казала табе, што яны атручаны.

Паўля. Не, мамачка, я не такі дурань, я даў адну аладку Марыльцы зьесьці, і калі яна сёньня ўвечары будзе жыць, я зьем астатнія.

**Дз. М.**

Менск, 1-ая Дзяржаўная друкарня. Заказ № 3110 У ліку 1.600 экз. Галоўлітбел № 18.500.